НАЦЫЯНАЛЬНЫ
ГІСТАРЫЧНЫ
МУЗЕЙ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ



# ІКАНАПІСНАЯ СПАДЧЫНА БЕЛАРУСІ

## XVII — пачатку XX ст.

*Помнікі са збору Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь*




# ІКАНАПІСНАЯ СПАДЧЫНА БЕЛАРУСІ
## XVII — пачатку XX ст.

*Помнікі са збору*
*Нацыянальнага гістарычнага музея*
*Рэспублікі Беларусь*

**Иконописное наследие Беларуси**
**XVII — начала XX в.**

*Памятники из собрания*
*Национального исторического музея*
*Республики Беларусь*

**Icon-Painting Heritage of Belarus**
**of the 17th — early 20th Centuries**

*Artifacts from the collection*
*of the National Historical Museum*
*of the Republic of Belarus*

Мінск
Кнігазбор
2019



***«Іканапісная спадчына Беларусі XVII — пачатку XX ст. Помнікі са збору Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь»*** — выставачны праект галоўнага музея Беларусі. Усяго на выставе экспануецца 69 твораў. Прадстаўленыя іконы і алтарныя карціны даюць уяўленне пра развіццё сакральнага жывапісу на беларускіх землях за працяглы перыяд: ад першай паловы XVII да першай трэці XX ст. Дэманструемыя помнікі належаць да розных хрысціянскіх канфесій: праваслаўя, каталіцтва, уніяцтва і старaабраднiцтва. Акрамя храмавых абразоў на выставе прадстаўлена вялікая група твораў, прызначаных для размяшчэння ў дамах для хатняй малітвы.

Найбольш раннія іконы — «Багародзіца Адзігітрыя» (іл. 1) і «Хрышчэнне ў Іардане» (іл. 2) — датуюцца першай паловай XVII ст. Яны сведчаць пра панаванне ў той час у беларускім жывапісе маньерызму. Названы багародзічны абраз з'яўляецца адным са знакавых помнікаў у калекцыі музея, бо на ім увасоблены тыя рысы, якія істотна адрозніваюць беларускую іканапісную традыцыю ад сакральнага мастацтва суседзяў — Расіі і Польшчы. Гаворка ідзе пра раслінны арнамент на фоне іконы, які выразаўся або ляпіўся па ляўкасе.

Такі спосаб аздобы беларускіх ікон назіраецца на помніках пачынаючы з XVI ст. Але менавіта на пачатак XVII ст. акрамя рэльефнага дэкору склаліся і іншыя мясцовыя асаблівасці — імкненне да рэчаіснасці, што назіраецца ў перадачы аб'ёму праз святлоценявую мадэліроўку; індывідуалізацыя абліччаў, этнаграфізм у адлюстраванні мясцовых тыпажоў, архітэктуры, прадметаў побыту.

Гэтыя ж рысы прасочваюцца і ў больш позніх творах, бо ў беларускім іканапісе яны праіснавалі да пачатку XIX ст., пакуль мясцовая традыцыя пад уплывам розных фактараў не пачала распадацца. У XVIII ст. у рэчышчы стылю барока разьбяны арнамент ускладняецца, робіцца больш мудрагелістым і пышным. Гэта выразна бачна на падпісаным абразе з г. Бешанковічы Віцебскай вобласці «Успенне Багародзіцы» 1730-х гг. (іл. 3).

Акрамя дошкі ў якасці жывапіснай асновы ў гэты ж час шырока выкарыстоўвалася палатно, што датычыцца перш за ўсё алтарных карцін і працэсійных ікон для каталіцкіх і ўніяцкіх храмаў. Цікавай спадчынай XVIII ст. з'яўляюцца два двухбаковыя абразы на палатне (іл. 10–11). Адзін з іх мае дарчы надпіс з датай стварэння, імем данатара і назвай паселішча, для храма якога ён быў выкананы — у 1789 г. заказаў яго Васіль Сак для царквы ў в. Мірацічы (Навагрудскі р-н Гродзенскай вобл., іл. 11). Пісаліся ў той жа перыяд і абразы на металічнай пласціне, пра што сведчаць два парныя помнікі (іл. 14, 15), якія паходзяць яшчэ з даваенных калекцый Беларускага дзяржаўнага музея, спадкаемцам якога выступае Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь.

Яскравым прыкладам жывапісу XVIII ст. з'яўляецца твор з Магілёўшчыны «Божая Маці Жыровіцкая» (іл. 12). Дадзены абраз — гэта спіс цудадзейнай багародзічнай іконкі, якая знаходзіцца ў праваслаўным (пазней ён стаў уніяцкім, а потым зноў праваслаўным) манастыры ў паселішчы Жыровічы (Слонімскі р-н Гродзенскай вобл.). Гэта адна з найбольш славутых хрысціянскіх святыняў беларускай зямлі, якая здаўна шануецца як цудадзейная, а ў 1730 г., калі Жыровіцкі манастыр дзейнічаў як уніяцкі (грэка-каталіцкі), яна, паводле каталіцкай традыцыі, была каранавана папскімі каронамі. У храмах і музеях Беларусі захаваліся спісы з гэтай святыні, большасць з якіх зроблена ў XVIII ст. Прадстаўлены на выставе помнік — адзін з іх. У экспазіцыі таксама змешчаны і даволі рэдкага сюжэту абраз, які распавядае пра цудоўнае ўзнікненне абраза «Божая Маці Жыровіцкая» (іл. 13). Паводле падання, ікона з'явілася на дрэве, дзе была знойдзена пастушкамі. Такія абразы, якія выступаюць свайго роду ілюстрацыяй да легенды, сустракаюцца даволі рэдка, і збольшага яны пісаліся ў XIX ст. Да гэтага ж часу і належыць згаданы твор, паходжанне якога, на жаль, не вядома.

У сакральным жывапісе XIX ст., з аднаго боку, працягваецца традыцыя папярэдняй эпохі, што назіраецца ў рэалістычнай, але пры гэтым крыху наіўнай трактоўцы вобразаў, выкарыстанні разьбяных фонаў (у абразах на дошках), захаванні ранейшых кампазіцыйных схем. А з іншага боку — у гэты перыяд з'яўляецца вельмі шмат твораў, напісаных не іканапісцамі, а прафесійнымі жы-

вапісцамі, якія атрымалі акадэмічную мастацкую падрыхтоўку. Прыкладам першай плыні можа служыць абраз «Троіца Новазапаветная» (іл. 17) з паўднёвай часткі Беларусі, прыклалам другой — «Божая Маці Бялыніцкая» (іл. 62) з ваколіцаў Быхава (Магілёўская вобл.), якая, што вынікае з надпісу на абразе, была створана ў 1891 г. П. Гарытнавым («П. Горитновъ»).

Асобная група твораў на выставе прадстаўлена хатнімі іконамі: яны прызначаліся не для храмаў, а для дамашняй малітвы (іл. 32–61). Хатнія абразы — цікавая мастацкая і культурна-этнаграфічная з'ява, якая на беларускіх землях склалася, па ўсёй верагоднасці, у другой палове XIX ст. Для такіх абразоў уласцівы, як правіла, наіў і падкрэсленая дэкаратыўнасць, свабодная трактоўка пэўных сюжэтаў. Асноўны арэал распаўсюджання такіх твораў — Магілёўская губерня (цяпер тэрыторыі Магілёўскай і Гомельскай абласцей). Тут жа з канца XVIII і да пачатку XX ст. існаваў і вядомы іканапісны асяродак — в. Бабічы (цяпер у Чачэрскім р-не Гомельскай вобл.). З прадстаўленых на выставе помнікаў да бабіцкай іканапіснай спадчыны належаць і хатнія, і храмавыя іконы: «Св. Юрый Змеяборац», «Тайная Вячэра», «Каранаванне Багародзіцы», «Ісус Хрыстос Пантакратар», «Божая Маці Казанская» (іл. 24–28). Для гэтых твораў уласцівы кантрасны каларыт, дынамічны мазок і экспрэсія, характэрныя бялільныя дэкаратыўныя элементы і пазнавальнае ружовае адценне.

Месцам стварэння іншых народных абразоў, для якіх уласціва наяўнасць стылізаваных кветак на палях, магла быць не толькі Магілёўская, але і суседняя з ёй Чарнігаўская губерня (Украіна), адкуль яны прывозіліся на нашыя тэрыторыі. У беларускім мастацтвазнаўстве іх называюць гомельскімі (па асноўным арэале бытавання — Гомельская вобласць), ва ўкраінскім — чарнігаўскімі. Для такіх абразоў быў уласцівы свой іканаграфічны рэпертуар. Так, сярод народных абразоў «з ружамі» (назавем іх так па іх асноўнай мастацкай асаблівасці — наяўнасці стылізаваных кветак) часцей за ўсё сустракаюцца «Св. Мікалай», «Божая Маці Трохручыца», «Божая Маці Пачаеўская», «Божая Маці Казанская», «Святая пакутніца Варвара» (іл. 31–33, 41–43, 47, 52–54, 56, 58).

Для вялікай групы хатніх абразоў месца іх стварэння пакуль не ўстаноўлена, аднак найбольш верагодна, што пісаліся яны ў тых паселішчах, якія зараз уваходзяць у склад Магілёўскай вобласці, бо менавіта тут яны сустракаюцца найчасцей. Яны ў адрозненне ад вышэй ахарактарызаваных груп ікон менш дэкаратыўныя: тут няма стылізаваных кветак або арнаментаў на фонах, няма тут, як у бабіцкіх абразах, яскравага кантрасту, аднак кампазіцыя і іканаграфія такіх твораў вельмі адметная (іл. 34–37).

Асобная група помнікаў, прадстаўленых на выставе, з'яўляецца спадчынай веткаўскай іканапіснай школы (іл. 64–69), якая сфарміравалася ў г. Ветцы (Гомельская вобл.) і навакольных слабодах у канцы XVIII ст. і праіснавала ажно да пачатку XX ст. Горад Ветка ўзнік як паселішча старабраднікаў — уцекачоў з суседняй Маскоўскай дзяржавы, дзе ў 1650–1660-я гг. праводзіліся рэформы

патрыярхам Ніканам пры падтрымцы цара Аляксея Міхайлавіча, што прывяло да царкоўнага расколу, бо вялікая частка праваслаўнага насельніцтва адмовілася прыняць новаўвядзенні і трымалася сваіх ранейшых абрадаў. Супраць непакорлівых вернікаў, якіх сталі называць раскольнікамі або стараабраднікамі, пачаліся рэпрэсіі, што і змусіла іх уцякаць, у тым ліку і на беларускія землі, у той час — Вялікае Княства Літоўскае. Адным з паселішчаў, заснаваных старaабраднікамі, была Ветка. Тут існавалі іканапісныя майстэрні, дзе выпрацаваўся свой выразны стыль, для вызначэння якога ў мастацтвазнаўстве ўкараніўся і адпаведны тэрмін «веткаўская школа». Абразы гэтай школы спалучылі ў сабе рысы яраслаўска-кастрамской іконы XVII ст., бо менавіта з гэтага рэгіёна старaабраднікі заснавалі паселішча Ветку, і мясцовага жывапісу XVIII–XIX стст. з уласцівымі яму рысамі тагачасных мастацкіх стыляў: з канца XVIII да першай трэці XIX ст. — барока, пазней — класіцызму. Такім чынам, з аднаго боку, веткаўская традыцыя істотна адрозніваецца ад уласнабеларускай іканапіснай традыцый таго часу і дазваляе праз параўнанне помнікаў больш яскрава зразумець сутнасць кожнай з іх, а з другога боку — яе існаванне звязана з нашымі землямі і з’яўляецца часткай нашай гісторыі.

Найбольш познім помнікам сярод экспануемых з’яўляецца «Божая Маці Адзігітрыя» (іл. 63), якая была напісана на шкле, відавочна, у 1920–1930-я гг. у Заходняй Беларусі, якая ў міжваенны перыяд была ў складзе Польшчы. На ўсходняй частцы Беларусі, якая ў той час была савецкай, развіццё сакральнага мастацтва спынілася, бо надышоў перыяд атэізму. Большасць абразоў у зборы Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь паступала ад прыватных асобаў, якія ў савецкі час пазбаўляліся ад забароненых, крамольных рэчаў; частка прадметаў была канфіскавана пад час спробы нелегальнага вывазу за мяжу. Таму іх паходжанне невядомае.

Гэтая выстава — першая маштабная прэзентацыя калекцыі іканапісу Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь.

Рэстаўрацыю і кансервацыю абразоў ажыццявілі: Юлія Дранец, Аляксандр Лагуновіч-Чарапко, Аляксей Пуцінцаў, Ларыса Брагілеўская, Яўгенія Калініна.



***«Иконописное наследие Беларуси XVII — начала XX в. Памятники из собрания Национального исторического музея Республики Беларусь»*** — выставочный проект главного музея Беларуси. Всего на выставке экспонируется 69 произведений. Данные иконы и алтарные картины дают представление о развитии сакральной живописи на белорусских землях за длительный период: от первой половины XVII до первой трети XX в. Демонстрируемые памятники принадлежат к разным христианским конфессиям: православию, католичеству, униатству и старообрядчеству. Кроме храмовых икон на выставке представлена большая группа произведений, предназначенных для размещения в домах.

Наиболее ранние иконы — «Богородица Одигитрия» (ил. 1) и «Крещение в Иордане» (ил. 2) — датируются первой половиной XVII в. Они свидетельствуют о господстве в то время в белорусской живописи маньеризма. Названная богородичная икона является одним из знаковых памятников в коллекции музея, так как в ней воплощены те черты, которые существенно отличают белорусскую иконописную традицию от сакрального искусства соседей — России и Польши. Речь идет о

растительном орнаменте на фоне иконы, который вырезался или лепился по левкасу. Такой способ украшения белорусских икон наблюдается на памятниках начиная с XVI в. Но именно на начало XVII в. кроме рельефного декора сложились и другие местные особенности — стремление к действительности, что наблюдается в передаче объема через светотеневую моделировку; индивидуализация обликов, этнографичность в отражении местных типажей, архитектуры, предметов быта.

Эти же черты прослеживаются и в более поздних произведениях, так как в белорусской иконописи они просуществовали до начала XIX в., пока местная традиция под влиянием различных факторов не начала распадаться. В XVIII в. в русле стиля барокко резной орнамент усложняется, становится более причудливым и пышным. Это отчетливо видно на подписанной иконе из г. Бешенковичи Витебской области «Успение Богородицы» 1730-х гг. (ил. 3).

Кроме доски в качестве живописной основы в это же время широко использовался холст, что касается прежде всего алтарных картин и процессиональных икон для католических и униатских храмов. Интересным наследием XVIII в. являются две двухсторонние иконы на холсте (ил. 10–11). Одна из них имеет вкладную надпись с датой создания, именем донатора и названием поселения, для храма которого она была исполнена, — в 1789 г. заказал её Василий Сак для церкви в д. Миратичи (Новогрудский р-н Гродненской обл., ил. 11). Писались в тот же период и иконы на металлической пластине, о чем свидетельствуют два парных памятника (ил. 14, 15), происходящие еще из довоенных коллекций Белорусского государственного музея, наследником которого выступает Национальный исторический музей Республики Беларусь.

Ярким примером живописи XVIII в. является произведение с Могилевщины «Божья Матерь Жировичская» (ил. 12). Данная икона — это список чудотворной богородичной иконки, которая находится в православном (позже он стал униатским, а потом снова православным) монастыре в поселке Жировичи (Слонимский р-н Гродненской обл.). Это одна из наиболее знаменитых христианских святынь белорусской земли, которая издавна почитается как чудотворная, а в 1730 г., когда Жировичский монастырь действовал как униатский (греко-католический), она, по католической традиции, была коронована папскими коронами. В храмах и музеях Беларуси сохранились списки с этой святыни, большинство из которых сделано в XVIII в. Представленный на выставке памятник — один из них. В экспозиции также помещена и довольно редкая сюжетная икона, рассказывающая о чудесном возникновении иконы «Божьей Матери Жировичской» (ил. 13). По преданию, она появилась на дереве, где была найдена пастушками. Такие иконы, выступающие своего рода иллюстрацией к легенде, встречаются довольно редко, и чаще всего они писались в XIX в. К этому же времени и принадлежит упомянутое произведение, происхождение которого, к сожалению, не известно.

В сакральной живописи XIX в., с одной стороны, продолжается традиция предыдущей эпохи, что наблюдается в реалистичной, но при этом

немного наивной трактовке образов, использовании резных фонов (в иконах на досках), сохранении прежних композиционных схем. А с другой стороны — в этот период появляется очень много произведений, написанных не иконописцами, а профессиональными живописцами, получившими академическую художественную подготовку. Примером первого течения может служить икона «Троица Новозаветная» (ил. 17) из южной части Беларуси, примером второй — «Божья Матерь Белыничская» (ил. 62) из окрестностей г. Быхова (Могилевская обл.), которая, что следует из надписи на иконе, была создана в 1891 г. П. Горитновым («П. Горитновъ»).

Отдельная группа произведений на выставке представлена домашними иконами: они предназначались не для храмов, а для домашней молитвы (ил. 32–61). Домашние иконы — интересное художественное и культурно-этнографическое явление, которое на белорусских землях сложилось, по всей вероятности, во второй половине XIX в. Для таких икон свойственны, как правило, наив и подчеркнутая декоративность, свободная трактовка определенных сюжетов. Основной ареал распространения таких произведений — Могилевская губерния (ныне территории Могилевской и Гомельской областей). Здесь же с конца XVIII и до начала XX в. существовал известный иконописный центр — д. Бабичи (ныне в Чечерском р-не Гомельской обл.). Из представленных на выставке памятников к бабичскому иконописному наследию принадлежат и домашние, и храмовые иконы: «Св. Георгий Победоносец», «Тайная вечеря», «Коронация Богородицы», «Иисус Христос Вседержитель», «Божья Матерь Казанская» (ил. 24–28). Для этих произведений свойственны контрастный колорит, динамичный мазок и экспрессия, характерны белильные декоративные элементы и узнаваемый розовый оттенок.

Местом создания других народных икон, для которых характерно наличие стилизованных цветов на полях, могла быть не только Могилевская, но и соседняя с ней Черниговская губерния (Украина), откуда они привозились на наши территории. В белорусском искусствоведении их называют гомельскими (по основному ареалу бытования — Гомельская область), в украинском — черниговскими. Для таких икон был свойственен свой иконографический репертуар. Так, среди народных икон «с розами» (назовем их так по их основной художественной особенности — наличию стилизованных цветов) чаще всего встречаются «Св. Николай», «Богородица Троеручица», «Богородица Почаевская», «Богородица Казанская», «Святая великомученица Варвара» (ил. 31–33, 41–43, 47, 52–54, 56, 58).

Для большой группы домашних икон место их создания пока не установлено, однако наиболее вероятно, что писались они в тех поселениях, которые сейчас входят в состав Могилевской области, так как именно здесь они встречаются чаще всего. Они в отличие от выше охарактеризованных групп икон менее декоративны: здесь нет стилизованных цветов или орнаментов на фонах, нет здесь, как в бабичских иконах, яркого контраста, однако композиция и иконография таких произведений весьма примечательна (ил. 34–37).

Отдельная группа памятников, представленных на выставке, является наследием ветковской иконописной школы (ил. 64–69), которая сформировалась в г. Ветке (Гомельская обл.) и окрестных слободах в конце XVIII в. и просуществовала вплоть до начала XX в. Город Ветка возник как поселение старообрядцев — беженцев из соседнего Московского государства, где в 1650–1660-е гг. проводились реформы патриархом Никоном при поддержке царя Алексея Михайловича, что привело к церковному расколу, так как большая часть православного населения отказалась принять нововведения и держалась своих прежних обрядов. Против непокорных верующих, которых стали называть раскольниками или старообрядцами, начались репрессии, что и заставило их бежать, в том числе и на белорусские земли, в то время — Великое Княжество Литовское. Одним из поселений, основанных старообрядцами, была Ветка. Здесь существовали иконописные мастерские, где выработался свой выразительный стиль, для определения которого в искусствоведении внедрился и соответствующий термин «ветковская школа». Иконы этой школы соединили в себе черты ярославско-костромской иконы XVII в., ведь именно из этого региона старообрядцы основали поселение Ветку, и местной живописи XVIII–XIX вв. с присущими ему чертами художественных стилей того времени: с конца XVIII до первой трети XIX в. — барокко, позже — классицизм. Таким образом, с одной стороны, ветковская традиция существенно отличается от собственнобелорусской иконописной традиции этого периода и позволяет через сравнение памятников более ярко понять суть каждой из них, а с другой стороны — ее существование связано с нашими землями и является частью нашей истории.

Наиболее поздним памятником среди экспонируемых является «Богородица Одигитрия» (ил. 63), которая была написана на стекле, очевидно, в 1920–1930-е гг. в Западной Беларуси, которая в межвоенный период была в составе Польши. В восточной части Беларуси, которая в то время была советской, развитие сакрального искусства прекратилось, так как наступил период атеизма. Большинство икон в собрании Национального исторического музея Республики Беларусь поступало от частных лиц, которые в советское время избавлялись от запрещенных, крамольных вещей; часть предметов была изъята во время попытки нелегального вывоза за границу. Поэтому их происхождение неизвестно.

Данная выставка — первая масштабная презентация коллекции иконописи Национального исторического музея Республики Беларусь.

Реставрацию и консервацию икон осуществили: Юлия Дранец, Александр Лагунович-Черепко, Алексей Путинцев, Лариса Брагилевская, Евгения Калинина.



«***Icon-Painting Heritage of Belarus of the 17$^{th}$ — early 20$^{th}$ Centuries. Artifacts from the collection of the National Historical Museum of the Republic of Belarus***» is the exhibition of the principal museum of Belarus. There are 69 works at the exhibition. Presented icons and altar paintings give an idea about the development of sacred art on the Belarusian territory over a long period: from the first half of the 17$^{th}$ century until the early 20$^{th}$ century. Demonstrated artifacts belong to different Christian denominations: Orthodox, Catholic, Uniate Church and Old Believers. The exhibition represents the temple icons and a large group of works intended to be placed in houses for home prayer.

The most ancient icons are «Virgin Hodegetria» (pic. 1) and «Baptism in the Jordan River» (pic. 2) — dated in the first half of 17$^{th}$ century. They show the supremacy of Mannerism in Belarusian icon-painting. These icons are some of the most significant artifacts in the museum's collection. There are features that significantly distinguish Belarusian icon-painting tradition of the sacred art. These traits are different

from our neighbors — Russia and Poland. We are talking about the floral ornament on background of the icon, which was cut or shaped on the gesso. This way of icon decorating in Belarus can be seen from the 16th century. At the beginning of the 17th century, there are other local features had developed — pursuance of reality, which is observed in the transmission of volume through lights and darks modeling; individualization of the figures; ethnographic character in the depiction of local places, architecture, household items.

The same features existed till the beginning of the 19th century until this local tradition was disintegrated under the influence of various factors. In the 17th century the Baroque style became more complicated and beautiful. We can see the changes in the «Dormition of Virgin Mary» icon (1730s) (pic. 3) from the Beshankovichy town of Vitsebsk Region.

Fabric was also used in icon-painting. There were altar paintings and processual icons made of fabric in Catholic and Uniate churches. Bilateral icons of fabric are interesting heritage of the 17th century (pics. 10–11). One of them has inscriptions with the date of its creation, name of the contributor and the name of the settlement. This icon was made by order of Vasil Sak in 1789 for the church in the village Miratsichy (Navahrudak District, Hrodna Region, pic. 11). There were also icons made of metal as seen on pictures № 14 and № 15 (belong to the pre-war collections of the Belarusian State Museum, now the National Historical Museum of the Republic of Belarus).

The «Our Lady of Zhyrovichy» icon (pic. 12) is a striking example of icon-painting of the 17th century. This icon is a copy of the miraculous Our Lady icon, which is located in the Orthodox (later it became Uniate, and then again Orthodox) monastery in the village of Zhyrovichy (Slonim District, Hrodna Region). This is one of the most famous Christian relics of the Belarusian land, which has long been revered as miraculous. In 1730, when Zhyrovichy Monastery belong to Uniate church, Bishop of Rome has crowned the icon, according to Catholic tradition. The churches and museums of Belarus have preserved copies of this icon, most of which were made in the 17th century. The museum's icon is one of them. The exhibition also displays quite rare icon that tells the miraculous origin of the «Our Lady of Zhyrovichy» icon (pic. 13). According to a legend, it was found on a tree by shepherds. Such icons, that depict a legend, are rare ones. Most of them were made in the 19th century. Unfortunately, the origin of this icon is unknown.

Sacred art prospered in the 19th century. On the one hand, the tradition of the previous time continued, which is observed in a realistic, but slightly naive manner in images depicting, using of carved backgrounds (for icons on wood), and presenting of the old compositional schemes. On the other hand, a lot of works not only produced by iconographers, but also by professional artists with academic artistic education. The example of the first direction is the «Trinity of the New Testament» (pic. 17) icon from the south of Belarus. The second direction example is

«Our Lady of Bialynichy» (pic. 62) from the Bykhau town (Mahiliou Region), which was created in 1891 by P. Harytnau.

The exhibition also presents the domestic icons: they are not intended for churches, only for homes (pics. 32–61). Domestic icons are an interesting artistic and cultural-ethnographic phenomenon in the second half of 19$^{th}$ century. These icons have general traits: naivety, decorativeness and free interpretation of certain subjects. Home icons were mainly spread in Mahiliou Province (now the territory of Mahiliou and Homiel Regions). At the end of 17$^{th}$ until the beginning of the 20$^{th}$ century, there was the Babichy village (now the Chachersk District of Homiel Region) known as a famous icon-painting place. The exhibition presents the Babichy iconographic heritage (domestic and temple icons): «St. George the Dragon Slayer», «Last Supper», «Coronation of the Virgin», «Christ Pantocrator», «Our Lady of Kazan» (pics. 24–28). These works are distinct in contrasting color, dynamic strokes and expression, bleaching decorative elements and pink hue.

Not only the Mahiliou Province could be the place of peculiar icons with floral ornament. Chernihiv Province (Ukraine) could also be a place from where the icons were brought to our territory. In Belarusian art history they are known as Homiel icons (because of the main place of its manufacture), but in the Ukrainian art study call them Chernihiv icons. Such icons had their own iconographic repertoire. There are icons with «roses» (we call them so because of their main artistic features — the presence of stylized flowers): «Saint Nicholas», «Virgin of the Three Hands», «Our Lady of Pochayiv», «Our Lady of Kazan», «Saint Martyr Barbara» (pics. 31–33, 41–43, 47, 52–54, 56, 58).

The place of their creation has not been established for a large group of home icons, but it is most likely that they were painted in the settlements that are now part of the Mahiliou Region (here they are most often found). Such icons are less decorative: there is no stylized flower or ornamental designs on backgrounds and no bright contrast. However, the composition and the iconography of such works are very distinctive (pics. 34–37).

A separate group of icons, presented at the exhibition, is Vietka icon-painting school (pics. 64–69), which was formed in the Vietka town (Homiel Region) and surroundins in the late 17$^{th}$ century and existed until the early 20$^{th}$ century. The Vietka town emerged as a settlement of Old Believers – refugees from the neighboring Moscow Principality, where in 1650–1660s were reforms conducted by Patriarch Nikon of Moscow with the support of Tsar Aleksey Mikhailovich. These reforms led to a split in the church, as the majority of the Orthodox population refused to accept innovations. Repressions against the unsubmissive believers, which were called schismatics or Old Believers and made them flee to the Belarusian lands, at that time the Grand Duchy of Lithuania. Here, in Vietka, icon-painting workshops developed their own distinct style. Over time, the term «Viet-

ka school» appeared in art history and became very famous. Icons of this school combined the features of Yaroslavl-Kostroma icons of the $17^{th}$ century (because Old Believers were coming from that area and there they founded the settlement of Vietka) and local painting of the $17^{th}$ — $19^{th}$ centuries with its inherent features of the artistic styles: the end of $18^{th}$ century to the first third of the $19^{th}$ century — Baroque, later — Classicism. Thus, on the one hand, Vietka traditions differ significantly from Belarusian icon-painting features of that time, on the other hand, Vietka icon school is tied to our lands and history.

The «Virgin Hodegetria» icon (pic. 63) is the most recent work of art among the exhibited artifacts. It was painted on the glass, apparently in 1920–1930s in Western Belarus; that was a part of Poland in the interwar period. On the eastern part of Belarus, which at that time was Soviet, the development of sacred art stopped because of the period of atheism. Most of the icons in the collection of the National Historical Museum of the Republic of Belarus came from individuals, which in Soviet times got rid of prohibited things; part of the items were confiscated while attempting to illegally export abroad. So, their origin is unknown.

This exhibition is the first significant presentation of the icon collection of the National Historical Museum of the Republic of Belarus.

Restoration and conservation of icons was made by Yuliya Dranets, Aliaksandr Lahunovich-Charapko, Aliaksey Putsintsau, Larysa Brahileuskaya, Yauheniya Kalinina.

